аднолькава праўнымі спосабамі аплаты. Ост рублі будуць заменены і спынены тады, як будзе выпушчана даволі остмарак. Час, у каторы будзе ісьці замена, працягнецца найменш 6 месяцаў. Шырокім апавяшчэньнем у свой час і адкрыцьцем вялікага ліку мяняльняў мае быць прынята пад увагу тое, каб кожын мог бяз клопату абмяняць свае грошы.

Вартасьць острубля ня можа быць зьменена выданьнем новых марковых грошай. Пры гэтым яшча раз зварочаваем увагу, што острубель нязьменна каштуе 2 маркі і што, як гэта было апавешчана загадам ад 30.5.17 году, нямецкае гасударства паручылася за выкуп у гэтым курсе. Так сама паручылася нямецкае гасударства за тое, што выкуп марковых білетаў будзе зроблен у номінальнай вартасьці нямецкіх марак. У тэксьце новых марковых білетаў памешчана гэта паручэньне, просты зразумелы зьмест каторага павінен спыніць усякіх сумлевак. Такім парадкам острубель і остмарка зьяўляецца у поўнасьці роўнымі нямецкім грашам.

**Апісаньне білетаў пазычковае касы Ост на 1/2 1 і 2 маркі.**

Білеты пазычковае касы на 1/2, 1 і 2 маркі надрукованы на белай канаплянай бяз прымесі цэлюлёзы паперы з прасьветным сьветлым водным знакам, каторы складаецца з зорак і кругоў.

Білеты на 1/2 маркі маюць 7 цт. ушыркі і 11цт. удаўжкі.

Пярэдняя старана мае хораша разрысаваны жаўтавата-чырвоны грунт. Аблямоўка штрыхаваных ліній, каторыя як і ўведзены пазьней тэкст надрукаваны чорным з буравым атценкам колерам, абхопліваe пасярэднюю часьць. Ува-ўсіх чатырох кутох аблямоўка пераходзіць у маленькія розэты, у сярэдзіне каторых на пакіненых мясцох, каса стоючы, ёсьць чысло 1/2.

Пасярэдняя часьць мае чырвона фіалетавы грунт, складзены з пераплеценых ліній і наложаны зьверху першага грунту. На пакіненым месцы ў сярэдзіне памешчана ў гэтым самым чырвона фіалетавым колеры чысло 1/2. З абодвух бакоў гэтага чысла чырвона-фіалетавы грунт пераходзіць у дзьве зоркавідныя він'еты.

Скрозь гэты грунт памяшчаецца гэткі тэкст:

«Darlehnskassenschein
Eine Halbe Mark
Kowno
1/2 den 4 April 1918 1/2
Darlehnskasse Ost
Fischer v. d. Martwitz. Moritz».

З абодвух бакоў тэксту, абазначаючага месца і число выданьня, ёсьць як раз у сярэдзіне вышэй апісаных він'етаў, па аднаму чыслу 1/2.

Ніжэй трох подпісаў факсыміле ёсьць у двох аднолькавай даўжыні радкох дробнымі літарамі аб'ясьненьне:

«Die Einlosung der Darlehnskassenscheine der Darlehnskasse Ost in Reichsmark zum Nennwert ist vom Deutschen Reich gewahrleisten». (Выкуп білетаў пазычковае касы Ост у номінальнай вартасьці гасударственных марак забаспечаны нямецкім гасударствам).

Адваротны бок мае жаўтаваты, складзены з ліній і малых кружкоў, грунт, на каторым ёсьць тэкст, надрукаваны цёмна-бурым колерам.

---

## Офіцыяльны аддзел.

### Апавяшчэньне.

**500 марак награды!**

У начы з 14 на 15.Х. 18. у гаспадара Іозаса Станкевіча ў Абшрутах Вількавішскага павету зроблены разбойніцкі напад.

Хто арыштуе разбойнікаў, або дасьць данныя, што памогуць іх задзяржаць і пакараць, дастане награды да **500 марак.**

Усе гэткія данныя трэба падаваць п. Крэйсгаўптману ў Вількавішках або ў бліжэйшай жандарскай станцыі.

Цяжкія кары ждуць тых, хто дасьць праступнікам схоўку, або іншую помач.

Вільня 19 кастрычніка 1918.

## З Польшчы.

ВАРШАВА (В.Т.Б). 25.Х. Тут былі другім наваротам пагромы жыдоў. Між жыдамі і палякамі былі стычкі ў Гройцах і ў прадмесьці Макатове. Таўпа ў 2.000 чалавек разьбівала жыдоўскія крамы і кватэры.

ВАРШАВА. Рэгенцыйная Рада абвесьціла агульную вайсковую павіннасьць і прызывае зараз-жа навабранцаў 1897 году.

## Весткі з Расеі.

БЭРЛІН. 26.Х. „Сѣверная Коммуна" наказавае ноту Чычэрына Вільсону, у каторай, між іншым, кажацца: „варункамі заміраньня вы паставілі Нямеччыне пакінуць занятыя войскамі землі. Мы згаджаемся пад гэтымі варункамі зрабіць заміраньне і пытаемся, калі вы выведзеце вашае войска з Мурмана, Архангельска і Сыбіры. Вы протэстуеце процiў ніштачаньня і гвалтаў, што робяць нямецкія войскі адступаючы, мы спадзяёмся, што вы забаронеце чэхаславаком рабіць гвалты над работнікамі і сялянамі.

## З усяго сьвету.

БУДАПЭШТ (В.Т.Б.). 25.Х. Сягоньня ўтварылася ў Вэнгрыі рада работнікаў і салдатоў і народная Рада.

БУДАПЭШТ. Імпэратар прыняў адстаўку міністэрства Вэкерле і даручыў Вэкерле часова да назначэньня новага міністэрства кіраваць справамі. Заместа гр. Буріана міністрам міжнародных спраў назначаецца гр. Андрашы.

БУДАПЭШТ. 26.Х. Вэнгерская нацыянальная рада ўтварылася ўчора ўвечары. У сваёй адозьве яна кажа аб незалежнасьці Вэнгрыі аб скорым скончаньні вайны і разрыве саюза з Нямеччынай. Цяперашні парлямэнт распушчаецца і склікаецца новы на аснове агульнага, роўнага і патайнога галасаваньня. Народы Вэнгрыі дастаюць права самаазначэньня. Мірныя ўмовы зроблены ў Бярэсьці і Букарэшце абвяшчаюцца ня істнуючымі.

ВЕНА (корэспондэнцбюро) 24.Х. Нямецкая нацыянальная партыя заявіла, што нямецкі народ Аўстрыі маніцца так сама скарыстаць з абвешчанага Вільсонам прынцыпа самаазначэньня народаў і наладзіць сваю долю так, як знойдзе для сябе лепшым.

ЛОНДОН. Забастоўка ў Англіі шырыцца. Бастуючыя работнікі ў Глезго пачалі грабіць емінныя крамы.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкія апавяшчэньні.

**25.Х. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: У Фляндрыі бітвы ў даліне Ліс. Непрыяцель уварваўся ў Дэйнцэ, але контратакай быў выкінены. На паўдня ўсход ад Дэннцэ мы ўзялі часьць французскіх акопаў на гэты бок Ліс. На ўсход ад Війтэ і Сэнт Элюа мы адкінулі сільныя наступленьні непрыяцеля. На ўсход ад Солем і Лёкато англічане вялі далей свае вялізарныя штурмы. На заход ад Шэльды яны адкінены перад нашымі лініямі. Штурмы процiў Люкенуа дайшлі да чыгункі. Непрыяцель змог уварвацца ў лес Буа-дэ-Норі і Фонтэн-о-Буа. На рэшце фронту ён задзержаны пасьля заўзятых бітваў.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Уаз і Сэр адкінены вельмі моцныя штурмы французаў, мясцамі контратакай.

*Фронт ф. Гальвіца*: Мясцовыя штурмы амэрыканцаў адкінены на абодвух берагох Маас.

**Паўднёва-ўсходні тэатр.**

Непрыяцельскія атакі наабапал Маравы. На заход ад ракі яны адціснулі нас трохі ў горах Крагуевач. На ўсход ад ракі іх наступленьні адкінены.

**26 Х. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: У даліне Ліс і між Ліс і Шэльдай непрыяцель пасьля заўзятага артылерыйскага прыгатаваньня павёў сільныя штурмы. На поўнач ад Шэльды непрыяцель пасьля першай удачы быў задзержаны. На рэшце фронту штурмы непрыяцеля разьбіліся перад нашымі лініямі.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Уаз і Энь вялікія сконцэнтрованыя штурмы непрыяцеля на шырыні 60 кілёметраў. Пасьля паўторных спроб непрыяцель захапіў Вільле лё-Сэк і вышыню на ўсход ад яго. Непрыяцель дайшоў нашых ліній пры Морт'е- Фруадмон-Вэль і П'ерпон. На рэшце фронту непрыяцель адбіты з цяжкімі стратамі. На заход ад Энь штурмы непрыяцеля паддзержаваліся панцырнымі аўтомобілямі. У некаторых мясцох штурмы былі сем разоў. На фронце аднае толькі дывізіі ляжаць 23 разьбітых аўтомобілі. Непрыяцель уварваўся толькі ля лесу Васкен у нашую пярэднюю лінію. На ўсіх іншых мясцох ён зусім адкінены.

*Фронт ф. Гальвіца*: Наабапал Маас дробныя стычкі.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага*: На паўдня ад Сэль мы ўзялі палонных.

**23 Х. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: У Фляндрыі бяз бітв'ў. На паўдня ад Шэльды мы адкінулі контратакай сільныя непрыяцельскія штурмы. Непрыяцель уварваўся ў Энгэльфонтэн і Гэк. З Гэк мы яго выкінулі контратакай.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Уаз і Энь французы вялі далей свае штурмы. Непрыяцель уварваўся ў нашую пазыцыю ля Плень-Шэльф. Далейшае яго наступленьне было адкінена з самымі цяжкімі стратамі. Чысьленыя аўтомобілі непрыяцеля ляжаць разьбіты перад нашым фронтам. Між Фрудамон і П'ерпон адбіты 4 заўзятых штурмы непрыяцеля. На вышыні на заход ад Энь наш штурм зышоўся з аднача́сным штурмам непрыяцеля. Упорныя бітвы скончыліся тут на нашую карысьць.

**Паўднёва-ўсходні тэатр.**

Рух на задняй лініі адбыўся згодна нашым плянам ля Крагуевац іЯгодзінай.

**Балканскі тэатр.**

У Сэрбіі наш рух разьвіваецца згодна з плянам. Мы пакінулі Крагуеваца. У Албаніі бяз зьмен.

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 26 Х. Імператар згодна з просьбай генэрала Людэндорфа аб адстаўцы аслабаніў яго ад спаўненьня абавязкаў першага генэрала кватэрмістра ваюючай арміі і загадаў пяхотнаму палку № 39 называцца палком генэрала Людэндорфа.

ГААГА. Бэльгійскі кароль назначыў часовай сталіцай Бэльгіі пакінены немцамі Бругэн.

ВЕНА. 27.Х. Італьянскі тэатр. На вышыні сямі грамад усе непрыяцельскія штурмы адкінены. Непрыяцель меў вялікія страты. На ўсход ад Брэнты бітва ідзе з нязьменшаючай сілай. Утрачаныя намі ўчора Портэ-Осолёне і Пэртіка, мы ўзялі штурмам назад. Штурмы непрыяцеля на вышыні Монтэ Сінэйцiа адкінены. На Фронце Піявы, наабапал Монтэлё непрыяцель пачаў наступленьне. У некаторых мясцох непрыяцель перайшоў на другі бераг, дзе цяпер заўзятыя бітвы.

ГААГА. У англіцкім парлямэнце было наказана, што нямецкім падводным лодкам удалося астацца цэлымі пры адступаньні немцаў з Остэндэ і Сэбругэ.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 25.Х. Нашыя падводныя лодкі ў Сяродземным моры затапілі 42.000 тонн. Апрача гэтага мы затапілі 31 парусьнік.

## Пачтовая скрынка.

Просім усіх, хто знае адрасы беларусаў:

**Янкі Купалы** (Івана Луцэвіча), **Якуба Коласа** (Константына Міцкевіча) і **Аграпены Рышкевіча** прысылаць іх адрасы ў Рэдакцыю «Гомана».



Друкавана ў друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей.